Каліва

Каліва

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ ЦЭНТРА ПАДТРЫМКІ ГРАМАДЗЯНСКІХ ІНІЦЫЯТЫВАЎ Вежа

№ 5, 2001



*Сделай себя сам: отдай свой голос за свое светлое будущее...*

## Сёння ў нумары:





# «Рэгіянальная Беларусь» робіць свой выбар

**26 траўня ў Менску адбыўся з'езд "Рэгіянальная Беларусь". Болей за 800 удзельнікаў з'езда аднагалосна падтрымалі Сямена Домаша як кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах 2001 года.**

Некалькі дзён таму грамадзяне краіны, нарэшце, даведаліся пра дату прэзідэнцкіх выбараў - 9 верасня. Але спадар Лукашэнка, які абвясціў сябе адзіным і непаўторным, ужо даволі даўно шырока вядзе прадвыбарную кампанію, не называючы пакуль што гэтыя дзеянні сапраўднымі імёнамі. Людзі, якія адчуваюць сябе грамадзянамі, стараюцца знайсці ў прэсе, даведацца ад знаемых і нават праз чуткі пра імёны тых магчымых кандыдатаў, што супрацьстаяць па поглядах дзеючаму дзяржаўнаму кіраўніцтву.

Пяцера магчымых кандыдатаў - Міхаіл Чыгір, Уладзімір Ганчарык, Сямен Домаш, Павел Казлоўскі і Сяргей Калякін - падпісалі дамову па ўзгадненню крокаў падчас выбарчай кампаніі.

Вялікая колькасць людзей у Рэспубліцы вызначылася ў сваіх сімпатыях і надзеях. І арганізаваная іх частка – сябры грамадскіх арганізацый, прафсаюзаў, партый – з рэгіёнаў і з Менску сабраліся 26 траўня ў зале Палаца Тонкасуконнага камбіната, каб выказаць сваю падтрымку Сямену Домашу.

Сямен Мікалаевіч Домаш добра вядомы ва ўсіх абласцях Беларусі ў колах грамадска-актыўных людзей не толькі па інфармацыйных матэрыялах. Як кіраўнік нефармальнага аб'яднання "Рэгіянальная Беларусь", ен шмат разоў наведваў не толькі абласныя цэнтры. Сустрэцца, паразмаўляць, параіцца з ім мелі магчымасць грамадзяне Баранавічаў, Салігорска, Пінска, Ліды...

Таму выбар удзельнікаў з'езда ўпэўнены і асэнсаваны. Наш выбар!

Рэспубліканскія незалежныя газеты ўжо шмат напісалі аб гэтай падзеі. Але яны не перадалі таго водару цеплыні, аптымізму, што вітаў у зале. Выступоўцаў не раз прыпынялі то смехам, то апладысментамі. Кожны з дакладчыкаў ад вобласці зрабіў акцэнт на тых праблемах, што найбольш балюча характарызуюць іх рэгіен. Мікалай Яроміч ад Берасцейшчыны – на бязглуздых кроках у адносінах да прадпрымальнікаў, Валерый Сівух ад Магілеўшчыны – на хібах сельскагаспадарчай палітыкі дзеючага кіраўніцтва.

Не аднойчы аудыторыя рэагавала смехам на прыклады з выступу спадара Варонежцава з Гомельскай вобласці, які гаварыў аб жахлівых наступствах Чарнобыльскай катастрофы ў вобласці. Чаму смехам? Бо Лукашэнка знайшоў новыя шляхі выратавання здароўя для пацярпелых людзей з забруджаных тэрыторый. Замест шпітальных карпусоў для хворых людзей – будуе Лядовы Палац, а на зямлі, да якой блізка падыходзіць небяспечна, – камандуе высадзіць персікі!

Віцебскі прамоўца, спадар Жэляпаў, гарачымі словамі крыўды і жорсткай статыстыкай аб поўным развале мясцовай эканомікі вызваў гоман абурэння ў зале.

Усе, аб чым гаварылі дакладчыкі, выглядала, як апісанне знішчанага і зняважанага скарбу, спадчыны, што перадаецца для адраджэння і памнажэння ў надзейныя рукі. Кожны падкрэсліваў, што па даручэнню сваіх землякоў, безумоўна, падтрымлівае Сямена Домаша і верыць у разважлівасць і гаспадарлівасць ягоную і спецыялістаў з яго каманды.

Сівы, сціплы чалавек, дырэктар народнага музея з вескі Гудзевічы, што ў Гродзенскай вобласці, спадар Белакоз так сказаў: "Шаноўным гасцям, якія наведваюць наш музей, даем мы ў падарунак вышыты гальштук. Самі вышываем, душу ўкладаем. Не кожнаму чалавеку, нават калі ён носіць вядомае імя, перадаем мы гэты гальштук-сымбаль. Толькі калі адчуваем, што шчыры, дабразычлівы і адданы сваей Беларусі. Сямен Мікалаевіч даўно ад нас яго мае. І няхай носіць з гонарам!»

Аддалі і мы ўсе, дэлегаты з'езда, ў падтрымку кандыдата ў прэзідэнты Сямену Домашу свае галасы. Аддадзім працу кожнага дня перадвыбарчай кампаніі.

Упэўнены – прыме з гонарам на карысць Беларусі.

*Іна Кулей,*
*старшыня Цэнтра "Вежа"*

# МНОГОЗНАЧНОЕ СЛОВО «СВОБОДА»

**Декрет Президента Республики Беларусь № 11 от 7 мая 2001 года "О некоторых мерах по совершенствованию порядка проведения собраний, митингов, уличных шествий, демонстраций, иных массовых мероприятий и пикетирования в РБ" противоречит Конституции РБ, поскольку ущемляет права граждан на проведение указанных мероприятий.**

Так, декретом установлено, что организаторами собрания, митинга, уличного шествия, демонстрации и пикетирования, в котором предполагается участие свыше 1.000 человек, выступают только политические партии, профессиональные союзы и другие организации. А если подобное мероприятие хотят организовать и провести граждане, не являющиеся членами партий, профсоюзов и других организаций? Согласно декрету они лишены такого права. Между тем статья 35 Конституции предусматривает: "Свобода собраний, митингов, уличных шествий, демонстраций и пикетирования, не нарушающих правопорядок и права других граждан РБ, гарантируется государством. Порядок проведения указанных мероприятий определяется законом".

По декрету следует, что должны быть немедленно прекращенны собрания, митинги, уличные шествия и т.д., участники которых действуют методами, создающими угрозу общественной безопасности, жизни и здоровью людей, «либо участники скрывают свои лица под масками». Вот так одним пунктом перечеркнуты все маскарады в стране!

Более того, декретом под угрозу ликвидации поставлены политические партии, профсоюзы и другие организации, которые являются организоторами собраний, митингов и т.д. В декрете сказано, что они могут быть ликвидированы за однократное нарушение соответствующего законодательства, если ответственные лица не обеспечат порядка организации или проведения этих мероприятий. Возникает вопрос: "А какие функции в таких случаях возлагаются на милицию?" Согласно декрета, милиция не несет никакой ответственности за поддержание порядка, что противоречит закону о милиции.

Декретом предусмотрено, что решение о проведении собрания, митинга, уличного шествия, демонстрации и пикетирования, в котором предполагается участие свыше 1000 человек, принимается руководителем областного, Минского городского исполнительного комитета или его заместителем с учетом даты, времени, места их проведения, количества участников, погодных и других условий по согласованию с республиканскими органами государственного управления, ответственными за обеспечение общественного порядка и безопасности. Все в нашей жизни зависит от погоды...

Сложная процедура выдачи разрешения на проведение собрания, митинга и другого массового мероприятия показывает нежелание властей, чтобы граждане Республики Беларусь пользовались свободой, предоставленной им Конституцией. В результате согласно декрету, чтобы получить разрешение на получение этой свободы надо согласование с республиканскими органами государственного управления. А если получен отказ в получении разрешение, в какой орган жаловаться на необоснованность отказа? Прямого ответа на этот вопрос в декрете нет. Впрочем, косвенный ответ есть. Жалуйтесь хоть Президенту, жалоба останется без удовлетворения.




Декретом установлено также, что проведение массовых мероприятий за 5 дней и менее до выборов, референдумов, отзыва депутата разрешается только в специально предназначенных для проведения массовых мероприятий местах, за исключением мероприятий, проводимых по решению государственных органов.

Это положение декрета раскрывает цель его принятия. Ведь в сентябре сего года состоятся выборы нового Президента Республики Беларусь. Для сохранения власти ныне действующего Президента и возникла необходимость ущемлять законные права граждан, предусмотренные Конституцией, запугивать политические партии и общественные объединения, подавлять демократические движения. Но никакие усилия властей не смогут воспрепятствовать свободному волеизъявлению белорусского народа на выборах Президента.

*Юрист Кулей Ф.И.*

# ДЕЛА ЮРИДИЧЕСКИЕ

**«Правовая клиника» Центра «Вежа» совместно с Белорусской ассоциацией женщин юристов (БАЖЮ) проводит программу «Правовое образование в белорусских поселках в области прав человека».**



Аналогичная программа уже успешно работает с 1997 г. в Брестской области, а чуть позже она начала свою работу и по республике. Программой были охвачены все областные центры и практически все районные центры. Новая программа нацелена в первую очередь на жителей маленьких поселков и деревень, где имеются средние школы, поскольку мы работаем с молодежью. Цель программы – повышение правосознания и правовой культуры граждан и оказание правовой помощи населению.

На сегодняшний день мы уже побывали в 9 деревнях Брестской области. Как правило, до нас в эти школы никто не приезжал с образовательными правовыми программами, а получить квалифицированную юридическую помощь жителям практически негде из-за удаленности деревни от районного центра. Поэтому в состав группы тренеров входят студенты-практиканты «Правовой клиники» и юрист, который оказывает консультационную помощь местному населению. Занятия проходили очень весело, интересно, активно использовались интерактивные методы. Можно отметить хорошую работу учителей школ, в которых мы побывали: ребята знают конституционные положения в области прав и свобод, международные документы. Правда, нас удивило, что в школах мало литературы для подготовки к занятиям по правам человека, иногда полностью отсутствуют необходимые книги, а о юридической литературе можно только мечтать

Очень хочется надеяться, что после проведения подобных занятий и школьники, и их родители будут серьезней относится к своим правам и не бояться их отстаивать.

*Наталья Евладова*

# МАЛАДЗЁВАЯ МАБІЛІЗАЦЫЙНАЯ КАМПАНІЯ

## *Становішча ў Берасцейскай вобласці*

**У адным з апошніх нумароў мы распявадалі пра стварэнне грамадскімі арганізацыямі і ініцыятыўнымі групамі Берасця Кааліцыі маладзёвага руху. Сёння прапануем Вам гісторыю стварэння абласной кааліцыі.**

Даволі вялікая колькасць маладзёвых арганізацый Берасцейшчыны вырашыла аб'ядняць свае намаганні дзеля захавання незалежнасці Беларусі, і вынікам гэтага рашэння стала *стварэнне абласной маладзёвай кааліцыі па мабілізацыйнай кампаніі*. Знаменальная ўстаноўчая сустрэча, на якую сабраліся больш за 14 арганізацыяў з Берасця, Белаазёрска, Кобрына, Драгічына, Пінска, Баранавіч, Лунінца, Пружан і Століна адбылася 15 студзеня 2001 г. у Драгічынскім раёне. Ініцыятарамі стварэння выступілі вядомыя ў рэгіёне маладзёвыя аб'яданні.

Каб лепш зразумець сутнасць утворанай структуры, трэба ведаць азначэнне слова "кааліцыя". *Кааліцыя* – гэта аб'яднанне незалежных арганізацый, якія падзяляюць агульную мэту па ажыццяўленню сацыяльных перамен і аб'ядноўваюць свае сілы для ўплыву на знешнія арганізацыі, захоўваючы пры гэтым сваю аўтаномнасць.

Зразумела, што кожная кааліцыя ўтвараецца з адпаведнаю мэтаю. Мэтаю абласной маладзёвай кааліцыі па мабілізацыйнай кампаніі з'яўляецца прыцягненне прадэмакратычна настроенай часткі моладзі да ўдзелу ў галасаванні падчас прэзідэнцкіх выбараў.

Кааліцыя плануе правядзенне наступных мерапрыемстваў і акцый падчас мабілізацыйнай кампаніі:

- правядзенне канцэртаў (да удзелу будуць запрошаны як мясцовыя, так і вядомыя Мінскія гурты);
- правядзенне дыскатэк (плануюцца мэтавыя дыскатэкі, разлічаныя на пэўныя ўзроставыя і сацыяльныя групы моладзі (студэнты, маладыя сем'і і г.д);
- ажыццяўленне акцый-перфомансаў (плануецца правядзенне акцый у выглядзе перфомансаў, прымеркаваных да знамянальных дат. Акцыі будуць мець цікавы і неардынарны фармат і тым самым будуць спрыяць прыцягненню ўвагі моладзі);
- выраб і распаўсюд агітацыйных матэрыялаў (падчас усіх мерапрыемстваў, якія будуць зладжаны маладзёвай кааліцыяй, будзе распаўсюджвацца друкаваная прадукцыя і іншыя агітацыйныя матэрыялы па тэме мабілізацыйнай кампаніі, таксама плануецца выраб відэаролікаў, прысвечаных выбарам, і далейшы паказ іх па абласному тэлебачанню, мясцовых тэлеканалах, будзе выраблены поўнакаляровы буклет, дзе ў цікавай і даступнай для моладзі форме будзе распавядацца пра выбары і неабходнасць удзелу ў іх);
- агульнакааліцыйныя абласныя акцыі (плануецца правядзенне некалькі буйных агульнаабласных акцый з шырокім удзелам маладзёвых грамадскіх арганізацый);
- спартыўныя мерапрыемствы, летнікі (будуць праведзены спартыўныя спаборніцтвы, турніры з шырокім удзелам моладзі).

*Складваецца ўражанне, што сумна моладзі гэтым летам не будзе!*

Сябры кааліцыі падпісалі адпаведнае Пагадненне аб супрацоўніцтве, а таксама выбралі каардынатара кааліцыі падчас устаноўчай сустрэчы. На другой сустрэчы, якая адбывалася ў Пінску, было запланавана правядзенне акцый, якія будуць ажыццяўляцца на працягу маладзёвай мабілізацыйнай кампаніі. А трэцяя сустрэча ў траўні ў Берасці была занята стварэннем канкрэтнага плана правядзення кампаніі. На сённяшні дзень кааліцыя пашырылася больш чым да 20 грамадскіх арганізацый і ініцыятыўных груп.



*А наша сувязь неразрыўна!*

Для каардынацыі сумеснай працы на арганізацыйнай сустрэчы абласной кааліцыі былі ўтвораны чатыры камісіі:

1. Інфармацыйна-агітацыйная,
2. Камісія па навучанню,
3. Маніторынгавая,
4. Інфармацыйная.

Інфармацыйна – агітацыйная камісія

Дадзенная камісія будзе займацца складаннем якасных інфармацыйных матэрыялаў. Гэта дапаможа зрабіць акцыі больш эфектыўнымі. Сябры камісіі дапамогуць з вырашэннем пытанняў правядзення як агульнай стратэгічнай інфармацыйнай кампаніі, так і пры распрацоўцы матэрыялаў для канкрэтных акцый.

Мы можам дапамагчы скласці:

- брашуры,
- бюлетэні,
- улёткі,

Распрацаваць дызайн:

- налепкі,
- каляндарыка,
- паштоўкі,
- выявы на майкі, кепкі і інш.

Каардынацыйная камісія па навучанню

Каардынатар сістэмы навучання будзе займацца арганізацыяй і правядзеннем трэнінгаў і семінараў для арганізацый-сябраў кааліцыі. Семінары будуць ажыццяўляцца як сваімі сіламі, так і з прыцягненнем прадстаўнікоў замежных арганізацый, якія маюць досвед правядзення мабілізацыйных кампаній у сваіх краінах.

Тэмы семінараў:

- Арганізацыя працы валанцёраў падчас выбарчай кампаніі,
- Правілы складання паслання да выбаршчыкаў,
- Планаванне часу і дзейнасці,
- Арганізацыя кампаніі "Ад дзвярэй да дзвярэй",
- Як зрабіць улётку,
- Рэсурсы кампаніі.

Маніторынгавая камісія

Яе галоўная задача – высвятленне эфектыўнасці працы. У залежнасцьці ад мясцовасці і спецыфікі мерапрыемстваў камісія будзе праводзіць наступныя акцыі:

- сацыялагічныя даследванні,
- анкетныя апытанні,
- іншыя маніторынгавыя метады.

Каардынацыйная камісія па інфармацыі

Яе дзейнасць – гэта стварэнне і наладжванне працы маладзёвай электроннай інфармацыйнай рассылкі ў Берасцейскай вобласці.

На працягу ўсёй выбарчай кампаніі пры дапамозе рассылкі мы будзем інфармаваць зацікаўленных аб усіх акцыях мабілізацыйнай кампаніі ў вобласці. Інфармацыя будзе рассылацца праз e-mail па меры назапашвання.

Падчас правядзення маладзёвай мабілізацыйнай кампаніі, рассылка будзе спрыяць хуткаму інфармаванню СМІ, а таксама грамадскіх арганізацый аб праведзеных акцыях, што ў сваю чаргу забяспечыць лепшую інфармацыйную падтрымку кампаніі.

***Свае пытанні Вы можаце задаць каардынатару "Берасцейскага маладзёвага пагаднення" праз e-mail: crc@tut.by***

*Па ўласнай інфармацыі*

# Если ты считаешь себя гражданином страны – будь им!

**2 – 3 июня в Бресте проходил семинар для молодежи Брестской области по проекту "VIRIBUS UNITIS". В чем смысл проекта, кто в нем участвует и чем все это завершится нам согласилась рассказать региональный координатор проекта в Бресте Ирина Дашина.**

-- Ирина объясни, пожалуйста, что значит название вашего проекта и какова его цель?

-- Название проекта означает "Объединенные усилия". И мы хотим научить ребят решать свои проблемы. Наша цель – это повышение уровня гражданского участия молодых людей в возрасте от 18 до 27 лет в решении социально-значимых проблем местного, регионального, национального масштабов путем проведения образовательных и информационных программ, направленных на понимание своих прав и методов их защиты.

Программа, которая будет одновременно реализовываться во всех регионах Беларуси, состоит из трех этапов. Первым этапом стало проведение 2 – 3 июня тренинга для мультипликаторов "Первый шаг" по теме "Гражданская ответственность молодежи". Во время второго этапа, который продлится примерно до середины июля, 16 подготовленным тренерам будет предоставлена возможность закрепить полученные знания на практике путем проведения собственных информационно-образовательных кампаний. Третий этап предусматривает дальнейшие встречи молодых людей, подготовленных мультипли-каторами, с ребятами в своих городах и деревнях для разрешения проблем, которые будут определены совместными усилиями. Разумеется, проблемы будут совершенно разные: начиная от наличия тараканов в общежитии и продолжая обязательным распределением после завершения вуза. К сожалению, конца проблемам нет, но мы попытаемся решить именно те, которые волнуют молодежь.



Зверюшки из буклета о проекте предлагают всем поработать

На семинаре нас учили создавать листовки, писать пресс-релизы для СМИ, петиции в государственные структуры...

-- Кто участвовал сегодня в семинаре, ведь именно они будут в дальнейшем мультипликаторами? Эти ребята члены общественных организаций или нет?

-- Участники были самые разнообразные. Были и члены организации, были люди, которые просто активно участвуют в жизни своего региона. Нам важно, чтобы ребята помогли более широко распространить информацию нашей встречи, объяснили другим людям механизм защиты своих гражданских прав.

На семинаре у нас были 3 человека из Баранович, представители Кобрина, Ганцевич, Березы, Белоозерска и 10 ребят из Бреста.

-- Планируются ли какие-либо действия после проведения тренингов мультипликаторами у себя в городах? Будет ли продолжение работы?

-- Проект не заканчивается, потому что более активные будут приглашены на заключительном этапе реализации программы на итоговую конференцию "Гражданская ответственность и участие молодежи в разрешении молодежных проблем на местном, региональном и национальном уровнях", которая пройдет в Минске в конце августа – начале сентября. В конференции будут участвовать около 200 человек, задействованных в нашем проекте.

Предполагается, что самые активные участники станут целевой группой проекта "Школа лидерства" - логического продолжения проекта "VIRIBUS UNITIS".

-- Наверно, уже наметились какие-то акции и мероприятия, которые будут проводить участники семинара в Бресте в рамках вашего проекта? Расскажи про наиболее интересные, на твой взгляд.

– Каждому участнику семинара было предложено нарисовать карту проблем. Те ребята, чьи "карты" совпадали, объединялись в группы и на протяжении семинара решали как можно трансформировать проблему. А тренеры им помогали на примере учебного случая (в Бресте это было повышение заинтересованности в правовом образовании молодых людей).

Проблемы нашими участника поднимались самые разнообразные: представитель Березы брался за психологическую программу, в Ганцавичах хотели привлечь молодых людей в свою организацию, был экологический проект, а член кобринской организации обеспокоен проблемой малых городов – по его мнению, это проблема нехватки информации в этих городах.

– А кто были эти тренеры-помощники, кто проводит по Беларуси "VIRIBUS UNITIS"?

Данный проект реализуется совместно молодежным общественным объединением "Новая группа" и "Молодежным образовательным центром "Фиальта". Координатором проекта являются Ольга Никитина ("Новая группа") и Денис Будкевич ("Фиальта"). В каждом регионе есть региональный координатор, который проводит эти встречи на месте и помогает в осуществлении мероприятий в регионах.

В Бресте таким координатором являюсь я – Ирина Дашина. Связаться со мной можно по тел. (0162) 20-31-21.

-- Могут ли ребята, которые не узнали про этот проект вовремя, не смогли приехать на ваш семинар присоединиться к работе?

Да, дело в том, что подготовленные сегодня мультипликаторы будут проводить на втором этапе подобные встречи и те молодые люди, с которыми они будут работать, а это не менее 10 человек, далее будут сами проводить встречи.

А еще, чтобы желающие поучаствовать в нашем проекте смогли узнать о нем все подробности, мы запланировали не менее 10 публикаций о проекте в региональных и республиканских СМИ, не менее 16 публикаций о ходе компании по решению проблем.

Также мы планируем, что каждый координатор подготовит 16 мультипликаторов, а каждый мультипликатор проведет не менее 2 встреч, в которых примет участие не менее 20 человек.

Всего за проект будет проведено 32 встречи, 320 компаний по решению социально-значимых проблем, распространено 3.000 листовок в каждом регионе, вовлечено по 3.119 человека в каждом регионе, а всего по Беларуси будет задействовано 22.352 молодых людей.

Спасибо за беседу. Желаем, чтобы ваши прогнозируемые цифры стали качественной реальностью.

*Беседу вела Александра Берёзова*

FAN KLUB Letarhika BIARESCIE

Рок-клюб Берасьця

## Травеньскі хіт-парад

1. «Katuj-Ratuj» NRM
2. «Радзіма мая дарагая» С/п «Я нарадзіўся тут»
3. «Тры чарапахі» NRM
4. «Чыстае-сьветлае» NRM
5. «Партызанская» NRM
6. «Белая Лебедзь» Кася Камоцкая
7. «Песьні пра каханьне» NRM
8. «Бывайце здаровы» С/п «Я нарадзіўся тут»
9. «Я рок-музыкант» Мроя
10. «Звездочки» Нейро-Дюбель

Широкие возможности профессионального развития и повышения квалификации для сотрудников гуманитарных неправительственных организаций предлагаются **НОВОЙ ОБРАЗОВАТЕЛЬНОЙ ПРОГРАММОЙ Европейского гуманитарного университета**




## *по администрированию общественных объединений и других некоммерческих организаций гуманитарного профиля*

Программа повышения квалификации сотрудников гуманитарных неправительственных организаций разрабатывается на базе магистерской программы ЕГУ по подготовке менеджеров некоммерческих организаций.

ЦЕЛИ ПРОГРАММЫ:

• повышение квалификации сотрудников неправительственных организаций

• подготовка специалистов для общественных объединений и других некоммерческих организаций гуманитарного профиля

ДЛЯ УЧАСТИЯ ПРИГЛАШАЮТСЯ:

штатные и внештатные сотрудники НПО

ПРОДОЛЖИТЕЛЬНОСТЬ ОБУЧЕНИЯ И КОЛИЧЕСТВО МЕСТ:

Набирается 4 группы слушателей по 12 человек.

Для слушателей каждой группы будут организованы два недельных образовательных цикла, с интервалом один месяц между неделями.

Время занятий:

группа № 2: неделя в сентябре и неделя в октябре

группа № 3: неделя в ноябре и неделя в декабре

группа № 4: неделя в январе и неделя в феврале

*Внимание! Все расходы по проезду и проживанию в Минске берут на себя организаторы.*

СЛУШАТЕЛЯМ БУДУТ ПРЕДЛОЖЕНЫ

лекции, семинары и практикумы по теоретическим проблемам и практическим вопросам работы третьего сектора:

- Место НПО в политической структуре общества
- Социальная работа и защита общественных интересов
- Правовое регулирование деятельности НПО
- Стратегическое планирование и менеджмент НПО
- Основы финансового менеджмента НПО
- Маркетинг НПО
- Разрешение конфликтов
- Работа с персоналом
- Работа с волонтерами
- Отношения с общественностью

Порядок приема:

• соискатель подает письменную заявку с указанием номера группы

• сообщает о себе следующие сведения: Ф.И.О., место работы, продолжительность своей деятельности в НПО, характер выполняемой в НПО работы, должность в НПО, контактную информацию (почтовый адрес, домашний и/или рабочий телефон, е-таП)

• представляет рекомендацию от НПО и сведения о рекомендующей НПО/буклет НПО

• предоставляет копию документов об общем среднем / среднем специальном образовании (для лиц с высшим образованием - копии документов, подтверждающие наличие высшего образования)

**Сроки подачи заявок:с 25 марта до 1 декабря 2001 года**
*по адресу:* 220013 Минск, ул.П.Бровки 3а,
Европейский гуманитарный университет,
Центр гражданского образования
(с пометкой « сертифицированная программа для НПО»)
*или по электронной почте:*
semko@ehu.unibel.by, civics@ehu.unibel.by
(с пометкой «сертифицированная программа для НПО»)

*Слушателям, успешно прошедшим программу и аттестованным, выдается сертификат ЕГУ.*

*Слушатели с высшим образованием, успешно сдавшие экзамен по политологии, могут быть по рекомендации преподавателя освобождены от сдачи этого экзамена при поступлении в магистратуру ЕГУ по этой же специальности. (Поступающие на магистерскую программу должны иметь законченное высшее образование).*

**За дополнительной информацией обращаться по адресу: Минск, ул. П.Бровки, 3-а (ст. метро "Академия наук") Центр гражданского образования ЕГУ к.215(2этаж)**
**Тел/Факс: (17) 239 33 83**

Центр гражданского образования Европейского гуманитарного университета **объявляет на базе высшего образования набор в**

## *магистратуру по администрированию общественных объединений и других некоммерческих организаций гуманитарного профиля*

Специальность *политология (06.01.00)*
Специализация *управление социальными процессами*
Квалификация *политолог-менеджер*
Присваиваемая степень *магистр гуманитарных наук*
Срок обучения *10 месяцев (1 академический год)*
Форма обучения *очная (с отрывом от производства)*
Количество мест *10*

ЦЕЛЬ ПРОГРАММЫ:

*комплексная теоретическая и практическая подготовка кадров в сфере менеджмента гуманитарных организаций*

ПРОГРАММА МАГИСТЕРСКОЙ ПОДГОТОВКИ ОРИЕНТИРОВАНА:

• на тех, кто имеет опыт работы в гуманитарных неправительственных организациях (НПО)

• на тех, кто заинтересован в развитии третьего сектора

Необходимое требование к претендентам ***- наличие полного высшего образования любого профиля***

ПОРЯДОК ПРИЕМА И ЗАЧИСЛЕНИЯ:

• соискатель подает письменную заявку с обоснованием темы своего научного исследования и предоставляет следующие документы:

-- заполненное заявление по образцу, предлагаемом ЕГУ

-- 2 рекомендации от НПО, сведения о рекомендующей НПО (буклет)

-- копию трудовой книжки (при наличии стажа работы)

-- копию диплома о высшем образовании и копию приложения к диплому (при подаче документов предъявляются оригиналы)



-- если имеются публикации - их список и ксерокопию одной из них

-- описание научного проекта и научных интересов в области управления деятельностью НПО (не более 2-х страниц)

• сдает экзамен по политологии

• сдает экзамен по английскому языку

• проходит индивидуальное собеседование

Зачисление осуществляется на конкурсной основе с учетом результатов экзаменов, собеседования, обоснованности избранной темы магистерской работы.

*Внимание! Поступившим в магистратуру предоставляется стипендия, иногородним - дополнительное пособие на оплату жилья.*

СРОК ПОДАЧИ ЗАЯВОК: до 15 сентября 2001 года

АДРЕС: 220013, Минск, ул. П.Бровки, 3а,
Европейский гуманитарный университет,
Отдел научных исследований, аспирантуры и магистратуры (с пометкой «магистратура НПО»)

*Бланки заявления можно получить по указанному адресу или по электронной почте* scientific@ehu.unibel.by (с пометкой «магистратура НПО»)

Приемные экзамены по политологии, иностранному языку и собеседование - с 16 по 25 сентября 2001 г.

Начало занятий -*1 октября*

**За дополнительной информацией обращаться по адресуказанному в соседнем объявлении или e-mail: civics@ehu.unibel.by**

**Обе образовательные программы являются результатом совместного проекта ЕГУ и университета г. Джексон (штат Миссиссиппи, США)**

# КОНКУРС НА ДВУХГАДОВАЕ НАВУЧАНЬНЕ Ў ПОЛЬШЧЫ

Інстытут Усходняй Эўропы Варшаўскага унівэрсытэту абвесьціў **конкурс на 25 стыпэндыяў - «Спэцыяльныя ўсходнія навучаньні Варшаўскага ўнівэрсытэту»** тэрмінам на 2 гады. Праграма ахоплівае праблемы гісторыі і сучаснасьці Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, Расеі і ўсяго посткамуністычнага абшару, канцэнтруецца на гісторыі, нацыянальных справах і паліталёгіі, але мае элемэнты гісторыі мастацтва, літаратуры, культуры, геаграфіі і дэмаграфіі, права, эканомікі. **Навучаньне праводзіцца па трох спэцыяльнасьцях: Усходняя Эўропа, Расея-Сярэдняя Азія-Каўказ, Цэнтральная Эўропа і Балканы.** У межах праграмы навучаньне праводзяць як польскія, так і замежныя выкладчыкі.

Прапануюцца 5 стыпэндыяў спецыяльных:

-- **стыпэндыя Міністра замежных справаў Польшчы** -- у галіне палітыкі і міжнародных зносінаў;

-- **спецыяльная стыпэндыя** -- у галіне аховы гістарычнай і культурнай спадчыны (для грамадзян Літвы, Беларусі і Украіны);

-- стыпэндыя Фонду **«Дапамога палякам на Усходзе» і «Таварыства палякаў»** (для кандыдатаў - палякаў з Усходу);

-- **стыпэндыя Фонду ім. Аляксандра Гейштарту,** прафесара Варшаўскага унівэрсітэту, старшыні Польскай Акадэміі Навук, - у галіне гісторыі Польшчы і Усходняй Эўропы (для кандыдатаў з Літвы і Беларусі);

-- **стыпэндыя ім. Ежы Гедройца**, стваральніка і рэдактара «Культуры» (для кандыдатаў з Украіны, Літвы, Беларусі).

Для ўдзелу ў конкурсе патрэбна мець вышэйшую адукацыю, пажадана гуманітарную, добрую навуковую працу ці досьвед працы арганізацыйнай, узрост да 30 гадоў, добра арыентавацца ў праблемах пазначаных рэгіёнаў у 19-20 ст., мець станоўчы вынік пісьмовага тэсту, валоданьне польскай мовай у межах разуменьня лекцый і карыстаньня літаратурай.

Дакуманты прымаюцца да 20 чэрвеня 2001 году.

**Дадатковую інфармацыю магчыма атрымаць у Інтэрнэце па адрасе** www.uw.edu.pl. Калі ласка, запытывайце аплікацыйныя формы ў Цэнтры "Вежа".

# ДЗЕЦІ СА ШКОЛЫ-ІНТЭРНАТУ ШУКАЮЦЬ СЕМ'І НА ЛЕТА

Педагагічны калектыў Целяханскай школы-інтэрнату (Івацэвіцкі раён Берасьцейскай вобласьці) зьвяртаецца да ўсіх грамадзянаў з просьбай дапамагчы з уладкаваньнем выхаванцаў на вакацыі.

У інтэрнаце знаходзяцца 217 дзяцей з затрымкай псыхічнага разьвіцьця, зь іх 30 - сацыяльныя сіроты і 5 - круглыя сіроты. З гэтых 35 дзяцей 24 кожнае лета забіраюць сваякі. 11 дзяцей застаюцца. Уладкаваньне іх у летнікі не заўжды прыносіць карысьць для выхаваньня дзіцяці. Летась Целяханская школа-інтэрнат праз івацэвіцкую «Газету для Вас» знайшла сем'і для некалькіх дзяцей.

Знаходжаньне дзіцяці ў сям'і аплочваецца дзяржавай з разьліку 1815 рублёў у дзень за старэйшага школьніка і 1677 рублёў за малодшага.

**З прапановамі зьвяртайцеся ў «Газету для Вас»: (01645) 2-12-29.**

# БЕЛАРУСКІЯ ВЕРНІКІ ЗМОГУЦЬ СУСТРЭЦЦА З ПАПАЙ РЫМСКІМ НА УКРАІНЕ

23-27 чэрвеня адбудзецца візыт Папы Рымскага Яна Паўла II на Украіну. Вялікая колькасьць вернікаў зь Беларусі пляную да гэтай падзеі наведаць Украіну. Амбасада Украіны ў Беларусі пацьвердзіла агенцтву Белапан, што дзяржаўныя органы рыхтуюцца прыняць паломнікаў.

Украіна стане чацьвертай дзяржавай з колькаснай перавагай праваслаўных вернікаў, якую наведае Папа Рымскі. У Кіеве кіраўнік Ватыкану сустрэнецца зь Леанідам Кучмам, правядзе два масавыя набажэнствы (па лацінскім і грэка-каталіцкім абрадзе). Дзьве імшы запляванаваныя таксама ў Львове.

# БЕЛАРУСКАЯ ПАЛІЧКА

НОВЫЯ ТЭКСТЫ:

- *Язэп Малецкі.* Пад знакам Пагоні. Успаміны
- Кніга Выхад (Стары Запавет)
- *Уладзімір Арлоў.* Прароцтвы Розы Герцыковіч (апавяданне)
- Вершы Міхала Анемпадыстава і Марка Шагала
- *Жорж Сімэнон.* Пад страхам смерці (аповесць); Раманіст (лекцыя)
- *Бэрнар Клавэль.* Бацькава падарожжа
- *Рэй Брэдбэры.* Нічога новага, альбо Што забіла сабаку?
- *Генрых Бёль.* Рызыка пісьменства
- *Belarusian cuisine* (Беларуская кухня, па-англ.)

НОВЫЯ СТАРОНКІ:

- Беларускія Акорды
- Паэтычныя старонкі Паўла і Пятра Сушко
- Беларускія лінкі
- Katalog prydatnych staronak ab Bielarusi

*Спадзяемся, што сярод гэтых матэрыялаў ёсць цікавыя для Вас. Замову магчыма зрабіць па e-mail: rassylka@knihi.com*

Адрас у Інтэрнеце: ***http://www.knihi.com***

# ЭКАЛЯГІЧНАЯ ПЕРАДАЧА НА БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ

Другі год у жывым этэры першай праграмы беларускага радыё выходзіць перадача **«Зялёны сусьвет»**.

Гэта супольны **экалягічны праект «Маладзёжнага радыё» і грамадзкай арганізацыі «Ахова птушак Беларусі».**

Перадачы прысьвечаныя прыродаахоўным праектам, што рэалізуюцца ў Беларусі, унікальным прыродным тэрыторыям, гісторыі запаведнікаў, рэдкім відам жывёлаў і інш.

За час існаваньня праграма стала інфармацыйным спонсарам некаторых акцыяў і конкурсаў: міжнародных дзён назіраньня за птушкамі, нацыянальных зімовых улікаў, конкурсу на лепшага маладога натураліста. У перадачы гучалі больш за 70 фанаграмаў галасоў розных відаў жывёлаў. У кожнай перадачы, акрамя інфармацыі, слухачам прапануецца адказаць на пытаньні і пазнаць голас якой-небудзь птушкі.

**Праграма «Зялёны сусьвет» запрашае да супрацоўніцтва аматараў прыроды і экалягічныя арганізацыі.**

Слухачы могуць прапанаваць тэмы асобных выпускаў, распавесьці пра цікавыя назіраньні, а таксама парушэньні прыродаахоўнага заканадаўства.

# ПРАПАНОВА ДА МУЗЫКАЎ І ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

Гарадзенская і Менская БМА плянуе выдаць да 9 лістапада (Сусьветнага Дня барацьбы з расізмам) CD «Музыкі супраць фашызму і расізму».

На кампакце маюць быць як беларускія, так і эўрапейскія гурты, якія прытрымліваюцца антыфашыстоўскіх поглядаў.

**Прадстаўнікоў беларускіх гуртоў, якія хочуць прыняць удзел у дадзенай кампеляцыі, просім зьвязацца:**

**230003, Горадня-3, а/с 62,**

**e-mail: bma_garodnia@tut.by,**

**тэл. у Гародні (01522) 2-34-68 (Андрэй).**

Сябраў грамадзкіх арганізацыяй, якія жадаюць дапамагчы пры стварэньні дадзенага праэкту, просім зьвязацца па вышэй пазначаным адрасе.

# БАСОВІШЧА'2001

**20-21 ліпеня** ў Гарадку пад Беластокам (Польшча) пройдзе Басовішча'2001, удзел у якім прымуць NRM, KRAMA, ZET, DEVIATION, УЛІС, СОНЦА МАО, Pidzamo Porno, RIMA, Зэ Дзвэры, Homan, Аляксандар Памідораў. Асаблівасьць сёлетняга фэсту - трэці фолькавы дзень.



# МІЖНАРОДНЫ ЛЕТНІ ІНТЭГРАЦЫЙНЫ ФЭСТ «КРУГЛАЕ ВОЗЕРА-2001»

**З 24 ліпеня па 2 жніўня 2001 года адбудзецца Міжнароды летні інтэграцыйны фэст «Круглае возера-2001». Форма правядзення - летнік (у намётах) на 70 асобаў.**

**Месца правядзення - Плешчаніцкае вадасховішча. Удзельнікі - моладзь ад 16 да 35 гадоў, людзі з абмежаванымі фізычнымі магчымасцямі і без іх.**

Гэта ўжо трэці летнік, які ладзіць грамадская арганізацыя «Розныя - Роўныя». Першыя два летнікі праходзілі на возеры Швакшты (1999) і Белым возеры (2000).

Мэта правядзення летніка - інтэграцыя здаровых маладых людзей і людзей з абмежаванымі фізычнымі магчымасцямі. Летнік мае экалягічную скіраванасць. У 2000 годзе пад час летніку была створаная экалагічная сцяжына на Белым возеры - ўнікальным прыродным запаведніку, дзе на плошчы ў 200 метраў можна сустрэць усе віды раслінаў, што растуць на Беларусі. Удзельнікі летніка рабілі калодзежы з прыроднымі фільтрамі з моха сфагнума, ладзілі жыллё для птушак са старых паваленых дрэваў. Удзельнікі летніка імкнуцца жыць у міры і гармоніі з прыродай.

Сёлета летнік будзе мець таксама адукацыйны аспэкт. У праграме летніка правядзеньне сэмінараў на тэмы:

«Што такое НДА і што такое НДА ў Беларусі?», «Мэты, задачы і віды дзейнасці НДА», «Каманда, лідарства, канфлікталогія і праектаванне», «Экалогія як накірунак дзейнасці НДА».

Да ўдзелу ў летніку запрашаюцца ўсе, хто жадае. Для ўдзелу неабходна запоўніць анкету.

**Кантактныя тэлефоны: (017) 268-48-17**

**e-mail: different@nsys.by**

**Коласава Таццяна, Калошкін Вадзім**

# СТУДЭНЦКІ ФОРУМ ПА АБМЕРКАВАНЬНІ НАДЗЁННЫХ ПЫТАНЬНЯЎ

18-20 чэрвеня 2001 году Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт у рамках тыдня навукі праводзіць **студэнцкі навукова-адукацыйны форум «Эўропа-2001».** Праца удзельнікаў форуму будзе структураваная тэматычнымі сэкцыямі, якія будуць уключаць як пленарныя паседжаньні, так і круглыя сталы. Будуць абмеркаваныя праблемы сусьветнай і эўрапейскай інтэграцыі, інфарманцыйныя тэхналёгіі, філязофія, рэлігія і іншыя.

**Па больш падрабязную інфармацыю і ўмовы ўдзелу зьвяртайцеся ў БАРЦ: barc@user.unibel.by**

# СМІ І НДА: МАГЧЫМА ПРАЦАВАЦЬ РАЗАМ

**Media & Management Academy (Нідэрлянды) у партнэрстве з Цэнтрам "Свабода слова ў падтрымку дэмакратыі" і Беларускай Асацыяцыяй Рэсурсавых Цэнтраў пачынае рэалізацыю адукацыйнага праекту для сродкаў масавай інфармацыі і недзяржаўных арганізацыяў (НДА) Беларусі.**

Усталяваньне шчыльнага ўзаемнага супрацоўніцтва паміж СМІ і НДА можа спрыяць разьвіцьцю грамадзянскага ўдзелу і грамадзянскай ініцыятывы, магчымасьці больш эфэктыўна ўплываць на прыняцьце важных для грамадзтва рашэньняў, у тым ліку праз вядзеньне дыялёгу зь дзяржаўнымі структурамі.

Праект складаецца з двух этапаў: пачатковага і прадаўжальнага курсаў навучаньня для журналістаў і прэс-сакратароў НДА (кожны зь якіх уключае па чатыры чатырохдзённыя трэнінгі). Трэнінгі будуць весьці галяндзкія экспэрты СМІ ў супрацоўніцтве зь беларускімі калегамі.

У праекце могуць прыняць удзел:

-- Маладыя журналісты (да 30 гадоў), якія спэцыялізуюцца ў асьвятленьні сацыяльнай, экалягічнай, праваабарончай і т.п. тэматыкі і жадаюць авалодаць новымі падыходамі і мэтадамі журналістыкі.

-- Маладыя супрацоўнікі (да 30 гадоў) НДА, якія займаюцца аховай навакольнага асяродзьдзя, праблемамі аховы здароўя, грамадзянскай адукацыяй, жаночымі пытаньнямі, а таксама правамі чалавека.

Першы трэнінг для берасьцейцаў плянуецца на жнівень 2001 і будзе праходзіць у Гародні (у тым ліку ўдзельнікі зь Берасьця і вобласьці).

Для ўдзелу неабходна запоўніць анкету і даслаць да 1 ліпеня па факсе, электроннай ці звычайнай пошце.

Групы (па 15 прадстаўнікоў ад СМІ і НДА) будуць камплектавацца на падставе ўзроўню ведаў і досьведу працы ўдзельнікаў.

**Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэл/факс (017) 234 00 27; тэл.: (017) 276 53 39, 223 10 91;**

**e-mail: monitoring@tut.by; barc@user.unibel.by.**

Аплікацыйныя формы магчыма атрымаць ў Цэнтры "Вежа".

## Наша Ганцаўшчына

Адкрыты з прыўдай да народу, за шчасце, дабрабыт, свабоду!

№3

Трэці у гэтым годзе нумар інфармацыйна-аналітычнага выдання «Наша Ганцаўшчына» прапануе чытачам матэрыялы пра дыялог мясцовых жыхароў і чыноўнікаў.

Артыкул "У паходзе за праўдай" расказвае пра наведванне ў Ганцавічы старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю па Брэсцкай вобласці К.У.Сіневіча і старшыні дзяржаўнага кантролю РБ Тозіка А.А.

Даволі цікавым прадстаўляецца механіз допуску "да цела" высокага начальніка: "з парога ў дзвярах райвыканкама "прыём" пачыналі старшыні сельскіх Саветаў, затым, калі пытанне "палюбоўна" не вырашалася, ужо за дзвярыма кабінета разглядала пытанні і скаргі абласная камісія". Самую вялікую частку пытанняў ствараюць праблемы з жыллём. Страшэнная карціна паўстае прад вачыма пасля знаёмства з умовамі жыцця Аляксея Ціханава: ён з жонкаю і шасцімесячным сынам жыве ў кватэры, якая яшчэ па акту ад 1998 года патрабуе капітальнага рамонту – чорныя сцены са слядамі кропель вады, цяжкае спёртае паветра з яўным "водарам" прарванай каналізацыі, прагніўшая падлога. Вільготнасць у памяшканні складае 95% (пры норме 30 – 60%)! А замест абяцанай дапамогі Аляксей атрымоўвае ўсё новыя і новыя акты. І становішча зменіцца толькі тады, калі мы ўсе будзем дапамагаць адзін аднаму, кажа аўтар, калі выб'ем з сябе бяспраўных рабоў, бо асобна ўжо немагчыма справіцца са сваімі праблемамі.

Пра досвед няўдалай інтэграцыі распавядае матэрыял «Пра аб'яднанне і курыныя мазгі». У недалёкім мінулым у Ганцавіцкім раёне адбылося аб'яднанне двух калгасаў «Сцяг Леніна» і «Парыжская Камуна». У выніку, калі цэнтрам саюзнага калгаса стала вёска Востраў, з Круговічаў зніклі кіслародная станцыя, аўтамабілі «МАЗ», цагельны завод, кароўнік і ржавее абсталяванне для сушкі збожжа. Замест усяго гэтага вырашылі будаваць птушкафабрыку, якую будуюць па сённяшні час. А потым больш паважным аказалася будоўля прамой дарогі з вёскі Востраў у Малыя Круговічы. Задума была вельмі неблагая. Але здагадайцеся, чым яна скончылася? Красамоўны прыклад інтэграцыі. Паспрабуйце падлічыць колькі нашых грошаў пайшло на ўсю гэтую няскончаную інтэграцыю, і тады стане зразумела, чаму мы жывем бедна.

Напрыканцы мінулага года да галоўнага рэдактара бюлетэня Пятра Гузаеўскага нечакана завіталі два міліцыянеры. Гаспадар вельмі хацеў пабачыць іх пасведчанні, але аказалася, што ім дастаткова мець толькі форму. Высветлілася, што напрыкладзе сп. Гузаеўскага міліцыянеры праводзілі аперацыю «Жилой массив», падчас якой правяралі пашпарты ў жыхароў. Пасля праверкі пашпарту, «госці» вырашылі паглядзець і пакой. Але, пабачыўшы камп'ютарную тэхніку і дакументы, міліцыянеры, якія атрымалі загад ад старшыні Ганцавіцкага РАУС, даставілі ўсю тэхніку і самога Гузаеўскага «куды трэба». Хутка адбылося два пасяджэнні суда, адно зачыненае, а другое адкрытае, у выніку чаго рэдактара аштрафавалі на 2 мінімалкі. Аштрафавалі за лістоўкі, хаця на самой справе гэта былі проста абвесткі пра конкурс. Нарэшце праўда перамагла: на апошнім пасяджэнні суда з Пятра зняты ўсе абвінавачванні і вернута сума штрафа.

У матэрыяле "Ганцавічы – даляравы рай" падымаецца пытанне, чаму немагчыма знайсці грошы на рамонт спартыўных залаў і класных кабінетаў сярэдніх школ для дзяцей, але калі ў Ганцавічах плануецца правядзенне занальных абласных спаборніцтваў сярод работнікаў выканаўчай улады, то сродкі адразу адкульсці бяруцца нават у такім адсталым па эканамічнаму развіццю раёне, як Ганцавіцкі. Дарэчы, пасля завяршэння спаборніцтваў, у гімназіі з бацькоў пачалі збіраць грошы на рамонт.

З бюлетэня можна таксама даведацца пра будаўніцтва аб'екта ракетна-касмічнай абароны – радыёлакацыйнай станцыі "Волга", якую мясцовыя жыхары называюць станцыя "Машукі", пра стварэнне дзіцячага фальклорнага калектыву "Хаўрусочак" і, зразумела, парадавацца рубрыцы "Сучасны гумар".

## BELARUSICATION

№ 2-3 красавік-травень 2001

Моладзевы бюлетэнь

Асноўнай тэмай травеньскага нумара "Belarusication" (№ 2-3) можна назваць студэнцкае самакіраванне.

Андрэй Палхоўскі распавядае пра працу міжнароднай канферэнцыі "Студэнцкае самакіраванне – перспектывы развіцця ў беларускіх навучальных установах", якая адбылася ў Менску 13 – 15 красавіка. Беларусы змаглі атрымаць ад замежнікаў - а гэта былі прадстаўнікі органаў студэнцкага самакіравання з Галандыі, Швецыі, Ірландыі, Велікабрытаніі, Сербіі, Славеніі і Харватыі - карысны досвед, абмяняліся ідэямі, ведамі, тым, што напрацавана і што зроблена, абмеркавалі цяжкасці і праблемы, а таксама сумесна паспрабавалі знайсці шляхі іх вырашэння. Удзельнікі канферэнцыі дамовіліся стварыць адзіную інфармацыйную сетку.

Таксама магчыма пазнаёміцца з Пінскай ініцыятыўнай групай па стварэнню студэнцкага самакіравання, якая ўтварылася 30 студзеня 2001г., студэнцкая моладзь расказвае пра тое, хто яны, чым займаюцца, што плануюць. Зараз Пінская ініцыятыўная група ў межах праекта "Рэклама студэнцкага самакіравання" праводзіць анкетаванне студэнтаў. Калі нехта жадае прыняць удзел у правядзенні анкетавання, можна звяртацца па тэл. 8-029-602-41-42.

Дарэчы, ініцыятыўныя групы па стварэнню студэнцкага самакіравання створаны ў Мінску, Гродне, Брэсце, Гомелі, Магілёве, Віцебску, Пінску, Наваполацку, Воршы і Баранавічах.

Артыкул "Права человека в Беларуси" распавядае пра сусветную гісторыю ўзнікнення паняцця "правы чалавека" і апісвае становішча ў гэтай галіне ў Беларусі. Атрымоўваецца, што нашы правы існуюць толькі фармальна, толькі на паперы. Хто ў гэтым вінаваты?

Матэрыялы "Пра жыццё студэнцкае..." і "ІкіП (Інстытут Кіравання і Прадпрымальніцтва) супраць студэнта Вадзіма Макеева..." паказваюць усе цяжкасці студэнцкага жыцця.

Напрыклад, студэнт Х., які адначасова з'яўляецца сябрам ЗБС, меў цікавую размову з прадстаўнікамі адміністрацыі свайго інстытута У. Высвятлілася, што , згодна статуту інстытута, студэнты інстытута У. не маюць права састаяць у палітычных, грамадскіх і іншых аб'яднаннях. Атрымоўваецца, што статут інстытута можа ўносіць змены ў Канстытуцыю краіны. І яшчэ знайшлося шмат розных прычын немагчымасці ўдзелу студэнта Х. у дзейнасці пінскага ЗБСу. А пачыналася ўсю з чыстага жадання зарэгістравацца...

Вадзім Макееў дык зусім стаў невідзімкаю - ён быў выключаны з інстытута за пропускі заняткаў, хаця ёсць сведкі і запісы ў журнале зусім іншага становішча. Пасля таго, як Вадзім падаў у суд іск аб неправамернасці загаду рэктара, ваенкамат не забыў напомніць аб сабе і даслаў павестку ў армію. Усе кропкі над «і» раставіць суд.

Аб тым, што такое прадпрымальніцтва, з якімі перашкодамі яно сутыкаецца, і дзе палягаюць карані нашых праблем распавядае артыкул «Прадпымальніцтва ў Беларусі».

Апошняя старонка прапануе шырокае распаўсюджванне спосабаў нетрадыцыйнага ўжывання (выкарыстоўвання) піва. Ёсць свае прапановы? Пішыце.

## КАЛЕГІУМ

Информационный бюллетень пинской общественной организации «Калегіум» подробно рассказывает про массовую гибель свиней на комплексе «Южный». История была следующая: шведская журналистка Мария Седерберг опубликовала статью «Голодный падеж свиней в белорусском колхозе» в газете «Дагенс Нюхетер», а также в «Нашей Свободе» (26.02.2001). Ссылаясь на местных жителей, Мария рассказала о том, что с мая прошлого года погибли от голода на межколхозном предприятии 25.000 свиней, какая-то часть падали была расхищена и продана на рынках Пинского района.

Дальше появилась статья в «Комсомольской правде», а корреспонденту радио «Свобода» ответил директор свинокомплекса: «Ситуация стабилизировалась». Факты говорили другое.

Общественные организации города («Калегіум», БХК и «Вясна») не могли оставить этот вопрос неразрешенным и обратились к властям с требованием провести расследование. 23 марта прокуратура Пинского района прислала трем вышеупомянутым общественным организациям подробное объяснение (на двух с половиной страницах) массового

падежа свиней и причин, почему возникли проблемы с утилизацией павших свиней. «8, 9 тысяч голов свиней... не получают... суточную потребность кормов...»

Из решения Пинского райисполкома № 109 от 23 марта 2001 г.: «Из-за сложного финансового положения на комплексе все имеющиеся на 01.03.2001 г. поголовье свиней (13.343 голов или 41,7% к 2000 г.) не обеспечено кормами под полную потребность...»

Результатом поднятой волны негодования стало объявление выговоров директору комплекса и главному ветврачу района за слабый контроль по утилизации трупов павших свиней. Также дирекции «Южного» придется рассмотреть вопрос о соответствии занимаемой должности заместителя директора и зоотехника-селекционера. Спасибо всем, кто думает о людях и помог спасти оставшихся свинок.

Интересно узнать о программе «Лидерство в области общественной, профессиональной и личной жизни в г. Питтсбург, штат Пенсильвания, США», в которой участвовала Оксана Дубновицкая. Участники занимались на базе женской больницы, которую, разумеется, очень тяжело сравнить с тем, где лечимся мы. Цель этой программы заключалась не только в том, чтобы совершенствовать лидерские качества участниц, но и показать представительницам общественных организаций из Беларуси и Украины наиболее эффективные и передовые технологии руководства в здравоохранении США.

Надеемся, что полезный опыт будет возможно применить в наших условиях.

Про то, что ребенок - тоже человек напоминает статья «Ребенок и права человека». Материал показывает и существующие в нашем обществе стереотипы в отношении прав детей, и представляет кратких обзор Конвенции о правах ребенка, которая вступила в силу 2 сентября 1990 г.

*Агляд падрыхтаваў Якаў Лампій*

## Газета для студэнтаў Берасця

У адзін з апошніх дзён навучання, 7 чэрвеня, ва ўсіх вышэйшых навучальных установах і буйнейшых вучэльнях г. Берасця студэнты мелі магчымасць атрымаць першы нумар «Студэнцкай газэты». Газета інфармуе навучэнцаў аб асноўных пытаннях, кранае такія праблемы, як размеркаванне, незаконнае выключэнне і заклікае кожнага да іх вырашэння. Правялі гэтую акцыю берасцейскія грамадскія арганізацыі, сябры абласной кааліцыі. Акцыя адбылася ў пяці буйнейшых гарадох вобласці: Берасце, Пінск, Баранавічы, Столін, Кобрын і Лунінец і з'яўлялася працягам агульнарэспубліканскай акцыі.

*Інфармацыйная служба Берасцейскай кааліцыі*

пища для размышления
идеальные родители
стенка на стенку

**ПРЕСС-БУМЕРАНГ**
бесплатно!

В очередном номере этой газеты Вы сможете прочитать о том, что такое охота на журналистов по-кобрински, в двух словах узнать о: работе клуба "Дебаты", молодежном фестивале "Залатыя ключы 2001", двух Юрьевых днях на Беларуси и "безобразиях" на танцполе в ЭМЦ "Гармония".

Пищу для размышления нам подкинули молодые репортеры: катавшийся в городском общественном транспорте корреспондент Виталий Шупилов заметил, что "...в автобусах обостряется чувство культуры"; возмущающаяся Ирина Спадневская назвала "покемонов" японскими чебурашками и решила "из принципа" не смотреть скандальный мультсериал: "Не хочу быть мусорной ямой". Не согласны? Можете продолжить тему!

Рубрика "Зеркало души" предлагает нам действительно хорошие стихи и нетривиальный взгляд на проблему Любви...

Студенты – настоящие и будущие – узнают, как "поймать халяву" из веселой статьи Ирины Леонович, а Юлия Комарова расскажет об экипировке настоящего студента.

Самой привлекательной к газете, на наш взгляд, является организованная Ириной Якимук рубрика "СТЕНКА НА СТЕНКУ". Девушки: "Я считаю, что парень не должен выражаться нецензурными выражениями!" Парни: "Какая же это девушка, если она имеет вредные привычки, не говоря уже о нецензурных выражениях?" Оказывается, у обеих половинок человечества накопилось много взаимных претензий! В следующем номере "ПБ" Ирина обещает столкнуть "Стенка на стенку" детей и родителей.

Прекрасно, что "ПБ" – действительно молодежная, действительно информационная (кроме вышеназванного мы смогли узнать: какое кафе в Кобрине стоит посетить; как искать нужную информацию в интернете; что уже не модно, а что – последний писк) и в самом деле – развлекательная (приколы "На нашей парте", конкурс на лучшего умника "ПБ", кулинарные рецепты "Ням-ням" и – совершенно бесплатная! – рубрика для поздравлений, приветов и воздушных поцелуев). Читайте (все!), завидуйте (конкуренты!!!)...

**ANIMA UNA**
межшкольный вкладыш-приложение
№ 2 май, 2001

"Жылі-былі у Берасці чатыры школьныя газеты: "LYCEUM" (ліцэй №1), "БОЛЬШАЯ ПЕРЕМЕНА" (гімназія №1), "ЭХО" (СШ №9) & "ТРИДЦАТОЧКА" (СШ №30)... Дык вось толькі нецікава стала існаваць паралельна, ні з кім не маючы зносін. Вось і вырашылі газеткі стаць "Адзінай душою", ці па-лацінску "ANIMA UNA».

Первый номер "AU" — межшкольного вкладыша-приложения вышел в апреле 2001 года. Знакомьтесь: первая страница – фотография нашей редакции и логотипы каждой из "газеток" на фоне трогательной статьи Солнышка. На следующих страничках каждая "газетка" рассказывает о своей Alma Mater и о самой себе. Последняя страничка смешит стишком "какого-то гимназического инкогнито" и предлагает для всех школ АНКЕТУ: "Якімі мы будзем?" Ну что ж, первый номер-презентация!

Во втором номере "AU" Вы найдете: ответ на вопрос, какими же "мы будзем" - інфармацыйна-забаўляльнымі! "Не ў жанры справа?" – и Вы узнаете, как IREX/Pro Media обучает начинающих журналистов. Рубрика "ФОРМАльный вопрос" грозит разбудить притухший "вулкан страстей" вокруг проблемы школьной формы. Все "газетки" высказали свое мнение, а "ТРИДЦАТОЧКА" даже провела соцопрос. О том, как и где купить компьютер, да еще и получить от этого удовольствие, Вы узнаете из материала DANы. С талантливой художницей, писательницей, начинающей журналисткой и, вообще, очень интересной личностью – Машей нас знакомит главный "вредактор" "LYCEUM"-а Алексей Кряквин. А на стр.7 поместилась "Літаратурная гасцеўня": читайте "КАЗАЧКУ" Якімкі! Ну а о том, что соплеменники – это люди, больные насморком, Вы сможете узнать, прочитав "Веселый словарь".

"AU" заинтриговала нас 3-м – уже готовым к выпуску! – номером: "Кто ты будешь такой: психолог, экономист, журналист, бухгалтер, учитель, компьютерщик, музыкант, актер..." Почитаем?



Давайте жить дружно!
**Тридцаточка**
Выпуск № 8
Май 2001 г.

Выпуск № 8 "ТРИДЦАТОЧКИ" – целиком и полностью праздничный, посвященный одному из самых светлых дней минувшего века – Дню победы. Газета поздравляет ВСЕХ. Вспоминает о героях Брестской Крепости. Рассказывает о технике и оружии времен Великой Отечественной. "Приколы "Тридцаточки" — исключительно на армейские темы.

Независимая газета гимназии №1 №4
**Большая перемена**
Издается с нового тысячелетия 1.05.01

Вышел очередной номер "БП": "Команда КГБ... заняла первое место". Что за команда - КГБ? Узнаете из рубрики "Гимназические новости". "Наш взгляд" – очень смелый материал, так как в нем высказали свое мнение о профпригодности учителей гимназии № 1 сами ученики. Вот так! А на 3 странице Вы найдете сводную таблицу цен за один академический час занятий с репетитором и эффективность этих занятий в %-м отношении... Также газета предлагает нам путешествие в город Брянск и ожившее средневековье. Любители музыки с удовольствием почитают материал Александра Розенблата в его рубрике "Муз FAQ". На этой же страничке – хит-парад. Приятно, что последняя страничка – литературная. "Проба пера" получилась, на наш взгляд, довольно удачной. Но судите сами...

*Обзор подготовила Наталья Микрюкова*

# 225 ГАДОЎ ПРЭСЕ Ў БЕЛАРУСІ

**У траўні споўнілася 225 гадоў ад пачатку выхаду першага перыядычнага выдання ў Беларусі.**

У 1776 годзе ў Горадні на польскай мове пачала выдавацца «Газэта Гродзеньска». Выходзіла яна раз на тыдзень на дзвюх старонках. Выданне змяшчала палітычныя навіны, інфармацыю з усяго свету, апавядала пра жыццё каралеўскага двара ў Варшаве, адлюстроўвала мясцовыя падзеі, друкавала ўрадавыя аб'явы. Пасля адной прыкрай памылкі была ўведзена пасада газетнага цэнзару. Вялікая ўвага надавалася асвятленню падзей на тэрыторыі Беларусі, далучанай да Расіі ў 1772 годзе. Чытачамі газеты з'яўляліся як простыя гараджане, так і магнаты і нават кароль Станіслаў Панятоўскі.

Праз 225 гадоў, па стане на 1 траўня 2001 году, у Беларусі налічваецца 1.170 зарэгістраваных пэрыядычных выданняў.

Акрамя гэтага, выдаецца блізу 360 непрафесійных бюлетэняў, якія ахопліваюць аўдыторыю каля 80.000 чытачоў.




**30 траўня гісторыка-краязнаўчы часопіс «Гістарычная брама» (г. Бяроза) адкрыў сваю старонку ў Інтэрнэце.**

# АДГЭТУЛЬ У ЭЛЕКТРОННЫМ ФАРМАЦЕ

У папяровым варыянце часопіс выходзіў ужо на працягу чатырох гадоў. Ва ўступным слове галоўны рэдактар Мікалай Сянкевіч сказаў, што часопіс разлічаны на думаючую, дасведчаную аўдыторыю. Прырытэт аддаецца эксклюзіўным матэрыялам, «белым плямам» у гісторыі Беларусі. Асноўнымі прынцыпамі з'яўляюцца непрадузятасць, рознабаковасць інфармацыі. Першы нумар цалкам складаецца з матэрыялаў вядомага берасцейскага краязнаўцы-даследчыка Аляксандра Ільіна. Аўтар выкладае ў Беларускім дзяржаўным універсітэце транспарту, даўно цікавіцца беларускай гісторыяй, мае шмат публікацый. Тэматыка нумару ахоплівае падзеі першай паловы 19 ст., што мелі месца на Берасцейшчыне. Асобныя артыкулы прысвечаны праблематыцы ўзнікнення беларускай нацыянальнай ідэі, руху філаматаў і філарэтаў, паўстанню дзекабрыстаў 14 снежня 1825 году, паўстанцам-берасцейцам і інш.

Рэдакцыя чакае ад сваіх чытычоў аргументаў, меркванняў, новых ідэй.

Электронны адрас часопісу:
http://members.brestelecom.by/~brama

*BARC-List NEWS*

---

**Напрыканцы лета плануецца да выдання эсе Зінаіды Дудзюк «ШЛЯХАМІ АДВЕЧНАГА СЛОВА».**

**Зінаіда Іосіфаўна** - вядомая брэсцкая паэтэса і пісьменніца, з'яўляецца аўтарам шматлікіх зборнікаў вершаў, кнігі прозы «Палоннікі жыцця», гістарычнага рамана «Архірэевы скарбы», краязнаўчых кніг «Лясы і лесаводы Брэстчыны», «Людзі і гады», некалькіх драматычных твораў і п'ес-казак для дзяцей.

*«...старажытная мова беларусаў у розныя часы і перажывала ўздым, і была пад забаронаю, але яна ніколі не спыняла сваёй жыватворнай плыні ў асяроддзі простага люду, іншы раз маючы выхад толькі ў вусную народную творчасць...*

*...І сёння беларуская мова працягвае сваё жыццё, можа, не ў самых спрыяльных умовах, але на ёй гавораць і пішуць паэтычныя, празаічныя творы, навуковыя працы... Яна нясе ў сабе шмат таямніц і загадак, стагоддзі перакліканюцца ў яе каранях і гуках. Яшчэ не адно пакаленне беларусаў будзе спасцігаць яе праз любоў і зачараванасць, як гэта здарылася са мною, пра што я і пішу ў эсэ.»*

Мы ўпэўнены, што новая праца паэткі, выдадзеная нават невялікім накладам, пакіне незабыўны след у душах, зацікавіць людзей, неабыякавых да сваей мовы і свайго жыцця.

Зінаіда Дудзюк

Шляхамі адвечнага СЛОВА



Мастак Аляксандр Вярышка

---




**Хутка аматары прыгожага змогуць сустрэцца з перакладам выбранай лірыкі Плеяды Ніны Мацяш «БАГАСЛАВІ СУСТРЭЧУ МНЕ...»**

**Ніна Мацяш** - паэтка і перакладчыца з французскай, польскай, нямецкай ды іншых моваў.

Яна з'яўляецца аўтарам трынаццаці паэтычных зборнікаў, некалькіх кніжак і п'ес для дзяцей, тэлесцэнараў і тузіна перакладных выданняў.

Сябра СБП, сябра беларускага ПЭН-цэнтру, заслужаны дзеяч мастацтваў РБ, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Арк. Куляшова, «Берасцейская зорка — 1998».

*"... Яны з'яўляюцца на нашым небасхіле ў самую плодную пару года – улетку, і іхнае зелянкавае, мархатлівае святло, ціхім, загадкавым верадам амройвае нашыя душы. Плеяды... Сем антычна-міфічных сясцёр, дачок Атланта, ператвораных Зеўсам у зоркі дзеля ўратавання ад праследу пажадлівага велікана Арыёна... Сам па сабе гэты міф амаль забыты людзьмі. Паняцце ж "плеяда" трывае ў памяці больш у пераносным сэнсе – як сузор'е знакамітых людзей... П'ер дэ Рансар, Жаашэн дзю Бэле, Рэмі Бэлё, Эцьен Жадэль, Жан Дара, Антуан дэ Баіф, Панцюс дэ Ціяр – бліскучая плеяда творцаў паэтычнае школы, яна на стагоддзі наперад вызначыла шляхі развіцця французскай літаратуры.*

*Пра жыццё і творчасць гэтых маладых людзей напісана багата літаратурнадаследчыцкіх прац, і пры жаданні іх можна знайсці ў нашых больш-менш буйных бібліятэках. Гэты зборнік – не акадэмічнае выданне паэзіі Плеяды. Ён вельмі асабісты, бо склаўся з перакладаў, пакліканых да жыцця светапоглядным і, эстэтычнымі, творчымі схільнасцямі перакладчыка. Чытач не знойдзе ў кнізе ніводнага верша Жана Дара, але мецьме магчымасць пазнаёміцца з "малымі" або "лёгкімі" паэтамі Плеяды: Аліўе дэ Маны, Жанам дэ Ляпярузам, Клодам дэ Бютэ, Філіпам Дэпортам, Жылем Дзюранам.»*

# ВИРТУАЛЬНАЯ ГАЛЕРЕЯ ЙОДОВА

## *ПРИВЕТСТВУЕТ ПОСЕТИТЕЛЕЙ И НОВЫХ УЧАСТНИКОВ !*



**«Чай с лимоном», Бумага, карандаш, 1998г.**

**Если у Вас есть возможность время от времени бродить по гиперпространству интернета, и там Вы с удовольствием ищите всевозможные культурные молодежные сайты, то, разумеется, Вы уже знакомы с новым проектом в белорусском интернете (называемом belnet) - художественной "Галерей Йодова" (www.jodov.com). Если же проведению вечеров за компьютером Вы предпочитаете чтение бюллетеней (что не менее увлекательно), но не прочь узнать чем занимается творческая молодежь Бреста, то давайте познакомимся...**

Первые вопросы, которые появились у меня: кто же такой Вова Йодов и для чего затеян этот проект. Не стоит долго ломать себе голову – жители Бреста, интересующиеся культурной жизнью города, наверняка должны были слышать о молодом художнике Владимире Кивачуке. Вот он-то и скрывается под



**«Гребень». Тонированная бумага, карандаш. 2000г.**

псевдонимом Вова Йодов. Именно он и дизайнерская группа AbsurdLodgic - в лице Виктора Вакулы и Олега Игнатюка - реализовала виртуальный проект "Галерея Йодова".

Немного о самом Jodov'е: Кивачук Владимир - 23 летний художник, закончил в прошлом году БрГУ, кафедру художественно-графических дисциплин. За время учебы провёл ряд персональных выставок в Бресте, Минске, Варшаве. Сейчас основное занятие – изобразительное искусство, работает учителем рисования в ДДЮТ, и дает частные уроки рисунка и живописи.

Работа на проектом «Галерея Йодова» началась в июле 2000 года после встречи Владимира Кивачука и Виктора Вакулы, вот тогда и появилась идея о галерее, в которой мог бы показать себя любой молодой талантливый художник, музыкант, дизайнер, фотограф, писатель, поэт и т.д., причем совершенно бесплатно. Если говорить проще, то галерея планировалась как портал брестской (и не только) творческой молодёжи в белнете. В результате сайт состоит из двух больших частей:

Одна часть рассказывает о художнике Кивачуке, в ней есть такие разделы как: графика (можно посмотреть большое количество графических работ Йодова, включая новые работы, которые нигде еще пока не выставлялись), живопись (большое количество весёлых, забавных, оригинальных и цветастых акварелей), критика (всевозможная информация о творчестве художника, рецензии критиков, публикации из журналов и газет), зарисовки (очень много рисунков и зарисовок людей), выставки (можно пройтись и посмотреть все работы с выставок, в которых участвовал автор), фото (фотоальбом автора с весьма оригинальными снимками), а также некоторые другие разделы, так или иначе связанные с творчеством Йодова.

А вторая – открыта для участия любого талантливого молодого человека. И называется эта часть очень по-человечески - ЛЮДИ. Вот именно здесь и можно увидеть то, что Вы нигде больше не увидите, и услышать то, что нигде пока не услышите. Во второй части сайта собраны ЛЮДИ, которые рисуют, пишут, сочиняют, играют, фотографируют и делают многое другое. На сегодняшний день Вы сможете познакомиться с такими замечательными людьми, как Любовь Новикова (уникальная графика и потрясающие иллюстрации к таким писателям как Кастаньеда и Картасар), Анатолий Тодорский (очень весёлые рисунки музыкантов и известных личностей, а ещё стихи, не менее веселые чем рисунки), музыкальные группы "Наизнанку" (есть возможность посетить их персональный сайт и скачать музыку) и "Дай Дарогу" (тексты песен и все песни с альбома "Зарубило" в хорошем качестве)! Советуем не пройти и мимо юной поэтессы Натальи Дорошук.

Как рассказал Владимир: «Проект "Галерея Йодова" молодой и, мы надеемся, будет динамично развиваться. Уже сейчас есть договоренность со многими музыкантами о том, что вскоре на сайте можно будет найти не только их биографии, фотографии и тексты песен, но и скачать себе любимые треки в формате MP3. Не будем заранее перечислять их, но скажу только, что эти песни практически невозможно найти, хотя многое из того, что в скором времени у нас появится, смогло бы свободно конкурировать с известными российскими исполнителями».

В ближайшем будущем сайт будет переведён на белорусский и английский языки, что привлечет посетителей, хотя уже сейчас в галереи побывали представители 14 стран мира. И если вы имеете доступ в Итренет и до сих пор ещё не побывали в "Галерее Йодова", смело вперёд на сайт www.jodov.com .

**Вова Йодов ждет контакта с молодыми и талантливыми через e-mail: vova@jodov.com.**

*Окуналась в высокое виртуальное искусство Марина Ампутова*

## *ВІДЫЯ-САЛОН "ВЯСНЫ"*

**запрашае што пятніца а 19.00 (б-р Шаўчэнкі 7-24, тэл. 20-13-95) на прагляд відыя стужак**



| Дата | Назоў | Жанр |
|---|---|---|
| **чэрвень** | | |
| 1 | Аліса ў краіне цудаў | Дзіцячы |
| 8 | Вольныя танцы "Слухай сваё" (I) | Музычны |
| 15 | Слёзы блуднага сына | Мастацкі |
| 22 | У пошуках Бэльвэдэр | Дак. |
| 29 | Вольныя танцы "Слухай сваё" (II) | |
| **ліпень** | | |
| 6 | Ноч доўгіх нажоў | Дак. |
| 13 | Абуджаная сталіца | Гістарычны |
| 20 | Незвычайны канцэрт | Музычны |
| 27 | Болта | Дзіцячы |
| **жнівень** | | |
| 3 | Насустрач Пагоні | Дак. |
| 10 | Ісус (I) | Мастацкі |
| 17 | Звычайны прэзыдэнт | Дак. |
| 24 | Ісус (II) | Мастацкі |
| 31 | Меч у камяні | Дзіцячы |

| Дата | Назоў | Жанр |
|---|---|---|
| **верасень** | | |
| 7 | Адважнае сэрца (I) | Мастацкі |
| 14 | Адважнае сэрца (II) | Мастацкі |
| 21 | Дзікае паляванне | Дак. |
| 28 | Гісторыя цацак | Дзіцячы |
| **кастрычнік** | | |
| 5 | Салодкі яд кахання | Мастацкі |
| 12 | "Марш Сабоды – I" (17.10.1999) | Дак. |
| 19 | Прыгажуня ў сонным лесе | Дзіцячы |
| 26 | Боязь | Дак. |

# СПОЧЕННОСТЬ КОМАНДНОГО ТЕЛА ПРИ ИСПОЛЬЗОВАНИИ КОММУНИКАЦИЙ В ДЕЛЕ

*Продолжение. Начало в № 3, 4.*

Продолжим свое продвижение в глубины организационной мысли: после миссии следует окунание в перспективное видение, а дальше не менее увлекательное углубление все ниже, и ниже, и ниже…

## Часть 2. Перспективное видение

Если по каким-то причинам декларация миссии организации не влечёт за собой благоприятный поворот в её деятельности, вам может, упаси Бог, понадобиться ещё и перспективное видение. В противоположность той подробной дорожной карте, каковой является декларация миссии, перспективное видение служит организации путеводителем более «высокого уровня». И чем этот уровень выше, тем лучше: ведь вам нужна перспектива, которая переживет века.

Первый шаг в разработке перспективного видения таков: запереть всех лидеров и координаторов в одной комнате - и пусть они там пособачатся о том, что это за штука «перспективное видение» и чем оно отличается от декларации миссии, от стратегического плана или изложения целей. Всё это ужасающе важные вопросы, иначе один неверный шаг - и начнётся работа над видением, когда надо заниматься тем, что связано с миссией, а потом в этой чащобе сам чёрт ногу сломит.

Дебаты над разработкой перспективного видения закончатся, когда участники из-за утомлённости и раздражения перестанут получать удовольствие от взаимного насилования интеллекта друг друга. В этот момент на кого-нибудь и снизойдёт перспективное видение. Все хорошие перспективные видения исходили от людей с переполненными мочевыми пузырями, которые к тому же вообще предпочли бы заниматься чем-либо другим.

Душа каждого шефа должна быть нараспашку

Можете быть уверены, что у вас классное видение, если оно вдохновляет членов вашей команды и позволяет им думать, будто они вовлечены в нечто куда более важное, чем отличное написание проекта, а также если сотрудники почувствуют себя частью крупномасштабного дела – словом, чего-то всерьез влияющего на общество. Вот примеры удачных перспективных прогнозов.







**Пример №1** *«Мы получим самый огромный грант, а все прочие сдохнут в грязных канавах от зависти».*

**Пример №2** *«Мы эволюционируем в чистую энергию и будем существовать в новом пространственно-временном континууме».*

## Часть 3. Вдохновляющие речи.

Вам, как лидеру, может попасться сборище недоучек, которые используют неадекватный инструментарий, погрязли в демократических процедурах и прочее, тем самым делая организацию не интересной для фондов. Лекарство таково: вдохновляющие речи. Соберите всю вашу команду и «зажгите огонь в их сердцах» каким-нибудь собственноручным образчиком проникновенного красноречия.

Вовсе не важно, чтобы эти слова несли какую-то конкретную полезную информацию (информация никогда не ведет ни к чему хорошему). Цель одна – надо поднять членов команды на отчаянную борьбу за гранты. Вот ряд фраз, которые веками звали на бой:

-- «Нам предстоит весьма непростой год».

-- «Честно говоря, не думаю, что под наш проект выделят финансирование».

-- «Изнуряющая работа сама по себе является великолепной наградой, иначе Вы бы сдохли от скуки».

-- «Если мы не получим очередной грант нам придется с Вами расстаться. По правде говоря, мы в любом случае хотели от Вас избавиться».

-- «Нам не страшны никакие внешние угрозы. Всё будет как обычно».

## Часть 4. Как творить в команде.

Стивен Кинг пишет очень страшные книги. Шекспир написал несколько превосходных пьес. К сожалению, оба работали в одиночку. Попробуй они работать в группе - и результаты были бы на порядок лучше. Именно эта теория лежит в основе коллективного написания текстов, и к логике тут не придерёшься.

Одно плохо - в группе не все являются Стивенами Кингами и Шекспирами. Таких людей вы там никогда не увидите. Достоинство коллективного творчества в том, что потом никто не обвинит вас в получившейся ерунде.

Главная задача коллективного творчества в том, чтобы каждое предложение отвечало всем целям каждого, кто находится в комнате. Если у участников различные цели, это может оказаться проблематичным. Для минимизации воздействия разных целей нужно сосредоточиться на тех, по поводу которых все стороны могут договориться, а именно:

1. Не включать в текст никакую информацию вообще.
2. См. пункт 1.

**В.а. галоўнага рэдактара:** Якаў ЛАМПІЙ
**Карэктар:** Люся НЕВЯДОМАЯ
**Макет і вёрстка:** Людміла ШАЙДЗЯНКОВА






Падпісана у друк 12.06.2001 г. у 18.00
Наклад 299 ас.

*Звярстана на настольна-выдавецкай сістэме Берасцейскага Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «ВЕЖА».*

*Друкуецца на правах унутранага карыстання*